# Супольнасьць

БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

ЧЭРВЕНЬ–ЛІПЕНЬ 1989 №4


## ШУКАЙЦЕ...

У 1921 г. у Вільні выйшла ў сьвет параўнаўча невялікая праца цікавага і самабытнага беларускага мысьліўцы Ігната Абдзіраловіча /Ігната Канчэўскага/ "Адвечным Шляхам / досьледзіны беларускага сьветагляду/". Праца, якая даволі засяроджана выразіла духовыя пошукі часткі беларускай інтэлегенцыі ў пераломныя для гісторыі Бацькаўшчыны перыяды, праца, без якое наўрад ці здолеем мы добра зразумець, чаму прадстаўнікі беларускай інтэлегенцыі апынуліся па розныя бакі ня толькі палітычных межаў, чаму Янка Купала называе сваю п"есу "Тутэйшыя" "т р а г і ч н а -сьмяшлівымі сцэнамі" /разрадка аут.— У./, не зразумеем сэнсу багата якіх дзеяў гэтае п"есы / толькі летась вернутае чытачам/ ды навогул шмат што з рэаліяў тагачаснага жыцьця, тых адрэзкаў гісторыі, якія сёньня хацелі б мы ведаць бяз "белых плямаў".

Чым жа адметная гэтая праца? Найперш тым, што бадай упершыню у самым шырокім культурным, гістарычным, гісторыка-філасофскім кантэксьце ставіцца ды адмыслова вырашаецца праблема сьпецыфікі беларускага сьветагляду, тае сьпецыфікі, якую ўпарта не хацелі заўважаць розныя імперскія навукоўцы зь іх ідэаламі "od morza do morza" ды "Сьвятой Русі" /Заходні ды Усходні вучоныя у "Тутэйшых"/. Паводле І.Абдзіраловіча, гэтая сьпецыфіка разьвівалася з геаграфічных, гістарычных, палітычных ды ідэялягічных асаблівасьцяў становішча Беларусі ў Эўропе. Месьцячыся блізка у сэрцы кантыненту, Беларусь даволі часта аказвалася арэнай сутыкненьняў і, у той жа час, пэўным пунктам раўнавагі розных культурных ды палітычных павеваў. Затым пра "сярэднестатыстычнага тутэйшага" нельга было сказаць, што ён праваслаўны альбо каталік, вуніт альбо язычнік і да т.п.

Вось гэтая "эўрапейская сярэдзіннасьць" прыводзіла ня толькі да таго, што Беларусь /у складзе Вялікага Княства Літоўскага, Рускага ды Жамойцкага/ давала ўзоры дэмакратычных інстытутаў ды плюралізму /талерантнасьці/ эўрапейскага значэньня, але й да пэўнае "правінцыйнасьці" на доўгія стагодзьдзі /для усходняга суседа — Паўночна-Заходні край, для заходняга — "Крэсы всходне"/.

Менавіта паміж гэтымі Сцылай ды Харыбдай Захаду і Усходу ляжыць, паводле І.Абдзіраловіча, гістарычны шлях беларусаў. "Незалежніцтва"? У пэўным сэнсе, так. Сам ён не хаваў сваіх сымпатыяў да ідэі самастойнай беларускай дзяржаўнасьці. Але й не зусім так, бо ён лічыў, што самая па сабе незалежнасьць яшчэ нічога не вырашае, калі не скіраганая на нешта больш высокае ды чалавечае. І з гэтага пункту І.Абдзіраловіч сур"ёзна крытыкуе чыста палітычную місію "незалежнікаў".

Чым жа недаспадобы І.Абдзіраловічу Захад і Усход /пад якім ён разумее ня толькі былую Расійскую імперыю, але й гэтаксама Савецкую Расію/? Перадусім іхным "месіянствам", памкненьнямі пераладкаваць чужое жыцьцё на свой капыл: Захад -- сваім індывідуалізмам і зьняважаю да калектыўнасьці, грамадзкасьці; Усход -- сваім "звышкалектывізмам" зь нівеляваньнем індывідуальнасьці. Але гэта не азначае, што І.Абдзіраловіч варожа ставіцца да Захаду і Усходу. Наадварот. Ён перакананы, што выйсьце — у разумным спалучэньні таго каштоўнага, што ёсьць у заходнім ды ўсходнім тыпах эўрапейскай культуры, а менавіта прынцып вольнага творчага чалавека-калектывіста. І таму зусім натуральна гучыць у кнізе: "Наша пакаленьне павінна стаць апошняй чарадой пад пахмурным пежагнаньнем Скарыны: "І на Ўсходзе, і на заходзе — шукайце!". "Трэці шлях", які прапануе І.Абдзіраловіч,-- гэта шлях творчасьці, шлях паступовага духовага ўзвышэньня чалавека, як адзіны ратунак ад крайнасьцяў "звышкалектывізму" і "звышіндывідуалізму". Цікава, што ў сваіх гуманістычных пошуках І.Абдзіраловіч даволі блізка падыходзіць да некаторых падставовых прынцыпаў марксізму /які ён, між тым, заўзята крытыкаваў/.

У гэнай невялічкай нататцы немагчыма нават закрануць увесь комплекс праблем гэтай багатай на думкі працы. Ды й чытачы самыя зробяць свае высновы.

Зерне кінута пачынальнікамі. Якое жніво будзе ў наступнікаў,-- залежыць ад ашчаднасьці і т в о р ч а с ь ц і сучаснікаў.

**УНУК**

## АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

Час, калі трэба журыцца  
Душою на сьвежых магілах  
Пуста-прынёсшыхся днёў.

М.Багдановіч

/Пасьвячаецца У.І./

Беларусь, як граніца паміж усходам і захадам.
Грунтоўная адзнака беларускай гісторыі -- духоўнае ваганьне паміж усходам і захадам.
Тыповыя адзнакі ўсходу і захаду.
Мэсыянізм усходу і захаду.

Нашы часы -- часы агульнай заблутанасьці, часы паўстаньня праменных, былцам, ідэалаў й іх канечнага зьнікаsucc праз нядаўгі час... Тое, што раней здавалася чыстым і сьветлым, штодзённа аплятаецца жыцьцёвым брудам і пылам. Так зьнікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнасьць. У такія часы адзінокая чалавечая душа шукае, пераглядаючы ўсё тое, што здавалася каштоўным, сьвятым і жаданым.

1.

На беларускую справу прызвычаіліся глядзець, як на нешта надта нявыразнае, ня маючае ў сабе духу жывога, каторы можа даць беларусам права на законнае сярод іншых народаў існаваньне. У нявыразнасьці беларускай культуры хочуць бачыць духовую сьмерць народу, яго няздольнасьць вызначыць свой уласны ідэал. Фармальна мы павінны згадзіцца, што ў нас невакрэсьлена культура, што ў нас смутны гістарычныя шляхі, але ў гэтым ня можна бачыць духовай беднасьці нашага народу, яго няздольнасьці ўласным крокам ісьці да вытварэньня ўласных формаў жыцьця, -- не, жыцьцёвыя акалічнасьці даводзяць аб іншым, што навет меней здольныя, меней сільныя народы вытварылі культурна- вызначанае жыцьцё. Калі беларускі народ не стварыў выразней культуры, дык гэта дзеля таго, што ў гістарычнай спадчыне яго была вялікая

1





2




3




4



5

6






7

8





9



10




ТАВАРЫСТВА БАЦЬКАЎШЧЫНА (1918)



ЧАСОПІС "САКАВІК"(1947)

10 ЧАСОПІС "ШЛЯХ МОЛАДЗІ" 1938 ВІЛЬНЯ

1. МАЛЮНАК "ПАГОНІ"

2. БЕЛАРУСКІ КААПЭРАТЫЎНА-ГАСПАДАРЧЫ САМАПОМАЧ 1934 /МАЛ. Я.ДРАЗДОВІЧА/

3 БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ (1946)

4 БЕЛАРУСКІЯ СКАУТЫ (1947)

5 ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ ТАВАРЫСТВА Ў ЗША (1954)

6 ПЯЧАТКА 1-ГА НАРОДНАГА САКРАТАРЫЯТА БНР

7 ВАРЫЯНТ МАЛЮНКА "ПАГОНІ"

8 БЕЛАРУСКАЕ /КРЫВІЦКАЕ/ КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА ІМЯ ФР. СКАРЫНЫ /ПРАГА 1935/

9 КАМІТЭТ СУВЯЗІ БЫЛЫХ БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ /1980/

што прыходзіць на зьмену капіталізму,караецца вышэйшай мерай пакараньня, з заменай, у выпадку зьмякчальных віну акалічнасьцяў,пазбаўленьнем свабоды альбо высылкай за мяжу...".
У будучым знакаміты 58 артыкул.

І на заканчэньне — два нягромкія акорды. Першы зь іх выклікае сьлёзы, другі — таксама.

т.Уншліхту:

"Талоснасьць рэвалюцыйных трыбуналаў /ужо/ не абавязковая. Склад іх узмацніць Вашымі людзьмі, узмацніць іх усялякую сувязь з ВЧК, узмацніць хуткасьць і сілу іх рэпрэсій. Перамоўце з Сталіным, пакажыце яму гэты ліст"/31 студзеня 1922/.

т.Каменеву:

"Ці ня можаце Вы паклапаціцца, каб пасадзілі кветкі на магіле Інэсы Арманд?" /24 красавіка 1921/.

---

Публікуючы гэты артыкул, мы карысталіся матар"яламі аднаго з нашых карэспандэнтаў, а таксама публікацыяй В.Ярафеева у газэце "Согласие" № 5, 1989г.

Некаторыя цытаты пададзены без перакладу, з тым, каб чытач лепш адчуў своеасаблівасьці стылю Уладзіміра Ільіча Леніна.

# ПЕСЬНЯ ЗЬ МІНУЎШЧЫНЫ

Не зусім традыцыйная для апошняга пакаленьня беларусаў песьня. Аўтар — малады бард з Воршы Андрэй Мельнікаў-- нядаўна пачаў гаварыць ды пісаць па-беларуску, таму натуральна, што у вершах ёсьць пэўныя моўныя хібы. Але самае каштоўнае, на нашую думку, у гэтай песьні — цэльнасьць мэлёдыі і словаў, эмацыйнасьць, нечаканасьць і караткевіцкае адчуваньне гісторыі, мінуўшчыны.

Над краінай -- хмары, хмары...
Крыкнеш гучна — глуха,глуха...
Нашыя надзеі-мары
Замятае завіруха.
Жах у чалавечым сэрцы.
Цемра у краі даўгачасна.
Толькі у тваім ваконцы,
У ім адным,сьвятло ня згасла.

Выйдзі, ясна панна,
Выйдзі, мая кахана.
Я цябе чакаю у парку,
І са мною мае коні,
Што па снезе ад фальварку
Да нязрадзіўшага войску
Панясуць нас шпарка-шпарка.
І ніхто нас не дагоніць.

Цераз пожні, церез пушчы,
Міма вёсак, міма вежаў,
Міма замкаў старажытных
Да мясьцін, дзе нас сустрэнуць,
Да мясьцін, дзе падтрымаюць
Нашы сябры-аднадумцы
З усёй Рэчы Паспалітае.

Па расьцерзанай Айчыне
Чужаземны Войскі рышчуць.
Крумкачы спраўляюць трызну,
Але зьнікнуць папялішчы.
Незалежнасьці паходня
У нас і гонар, і сумленьне.
Пад харугвамі з "Пагоняй",
Пад сьцягамі "Адраджэньня"

Прыйдзем, ясна панна,
Прыйдзем, мая кахана,
З нашым войскам незалежным
Да сваёй зямлі адзінай.

Вернем лясы і паркі,
Вернем свае фальваркі.
І калісьці непазьбежна
Мы адродзім усю краіну.

Нашыя маёнткі у пушчах,
Нашы вёскі, нашы вежы,
Нашы замкі старажытныя.
Ад Балтыку і да Крыму,
Да мясьцін, дзе падтрымаюць
Нашы сябры-аднадумцы
З усёй Рэчы Паспалітае.



# «СОРАМНА НЕФАРМАЛАМ...»

Нядаўна пабачыў сьвет 6-ты нумар беларускамоўнай "Беларускай трыбуны". Я і раней скептычна ставіўся да гэтага выданьня, бо ягоны узровень не падымаўся вышэй перадрукаў з розных крыніц і скандальнай хронікі. Але гэты выпуск выклікаў проста абурэньне. Цяпер рэдакцыя замахнулася у сваім шырпатрэбе на нашую гістарычную спадчыну. Першая падборка -- гэта акуратна перадрукаваны артыкул з часопіса"Крывіч" № 1/7/ за 1924 г., які быў зьмешчаны на 87 - 88 старонках пад псэўданімам В.Л-скі. Не, перапрашаю, я памыліўся, не акуратна перадрукаваны, а хутчэй кудасна пакрэмзаны з тым, каб упліхчыць яго у рамкі "выданьня". У выніку атрымалася нейкая макуха, у якой траціцца навуковы і дакумэнтальны падыход аўтара. Такі зьнявечаны твор ня варты подпісу В.Ластоўскага.

Акрамя таго, рэдакцыя палічыла магчымым самабытную мову аўтара замяніць"сучаснай нефармальнай". Пэўна пачынаць знаёміць чытача з В.Ластоўскім трэба ня з гэтага адерванага ад часу артыкула. У таго ж аўтара ёсьць больш значныя творы. Вось што у 1913 г. пісаў пра Ластоўскага Максім Багдановіч: "Власт надрукаваў усяго 3-4 рэчы, але кожную можна узяць за прыклад, як трэба пісаць?".

Мне здаецца "трыбуністы" проста ня здолелі падысьці да працы больш сур"ёзна, чым абразілі ня толькі Ластоўскага, але і нас, чытачоў.

Яшчэ большае абурэньне выклікаў пададзены "жыцьцяпіс". Сорамна нефармалам у якасьці галоўнай крыніцы браць БелСЭ, выдадзеную у 1972г. Ды яшчэ там, дзе гутарка ідзе пра беларускі буржуазны нацыяналізм. Рэдакцыя безсаромна зрабіла перадрук, зьмяніўшы толькі сэнс некаторых словаў на адваротны. Вось прыклад: на старонцы

287 б-га тома БелСЭ чытаем: "Ластоўскі Вацлаў Юсьцінавіч /20.10.1883, фальварак Калесьнікі Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 1938/, гісторык і публіцыст, адзін з ідэёлягаў беларускага нацыяналізму. Зь сям'і дробнага арандатара". А вось як гэты кавалак падае "трыбуна": "Нарадзіўся ў фальварку Калесьнікі Дзісенскага павету Віленскай губэрніі ў сям'і дробнага арандатара. Гісторык, публіцыст, адзін з ідэёлягаў беларускага нацыянальнага руху.".

Інакш, як крадзежам гэта не назавеш.

Алесь Жынкін.

# БУЧЫМСЯ МОВЕ

У якіх выпадках назоўнікі мужчынскага роду з чыстай асновай у родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак -а/я/, а ў якіх выпадках — канчатак -у/ю/?

I. -а/я/ маюць назоўнікі,якія азначаюць прадметы непадзельныя. Частка іх ня можа звацца імем цэлага прадмету:

а/ прадметы жывыя: сына, брата, ката, зубра;
б/ дрэвы, расьліны: дуба, клёна, васілька, аўса, пня, сланечніка;
в/ рэчы й прылады: сшытка, стала, бота, тэлевізара;
г/ назовы частак цела: локця, пальца, лоа, языка /але твару/;
д/ назовы месяцаў і дзён тыдня: кастрычніка, сьнежня... панядзелка, аўторка...
е/ назовы мераў, грошай: мэтра, літра, рубля;
ж/ тэрміны /асабліва з суфіксам -нік/: дзеяслова, назоўніка, дзейніка...
з/ памяншальныя: лясочка, кавалачка, садочка.

II. -у/ю/ ставіцца ў назоўніках мужчынскага роду, калі яны азначаюць прадметы падзельныя:

а/ назовы рэчываў, матэр"ялаў і зьяваў прыроды: пяску, цэмэнту, цукру, вугалю, дажджу, туману, агню, дыму, грому, ветру;
б/ разумовыя /абстрактныя/ паняцьці: клопату, розуму, болю, жалю, суму, страху, голасу, запалу, поступу, факту, друку;
в/ прадметы зборныя: люду, натоўпу, народу, лесу, гаю;
г/ у назоўніках іншамоўнага паходжаньня: дакумэнту, тому, пляцу, інстытуту, Мадрыду, Парыжу, Рыму;
д/ у такіх словах, як: краю, сьвету, сьледу.

I. Некаторыя назоўнікі могуць мець канчаткі і -а/я/, і -у/ю/: з маста — з мосту; каля дуба /дрэва/, але: стол з дубу /матэр"ял/.

II. У геаграфічных назовах у адных выпадках дазваляецца канчатак -у/ю/, у другіх — -а/я/, а ў трэціх тыя й тыя: зь Менску, Слуцку, Полацку, але з Барысава, зь Міра, з Гомелю й Гомеля.

Ад рэдакцыі: Мова павінна быць чыстая і пісьменная. У гэтым сэнсе "Супольнасьць" падзяляе думку публікаткі студэнтаў Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак "Студэнцкая думка". Мы і надалей будзем зьмяшчаць моўныя гутаркі ў разьдзеле "Вучымся мове".

# ЗВАРОТ ДА СУМЛЕНЬНЯ

Вайсковец, кім бы ты ня быў: афіцэр ці шарангковы; зь якога б ты народу ня выйшаў, задумайся на хвіліну... шчырую размову прапануе табе афіцэр Узброеных Сіл, г.зн. такі ж як і ты.

Пачнем з прынцыпу пабудовы войска. Чаму ты служыш на Беларусі?! Чаму не знайшлося табе месца на тваёй Бацькаўшчыне? Ці ня лепей табе было б служыць на зямлі тваіх бацькоў, дзе й ты сам нарадзіўся?! Менавіта таму цябе і заслалі далей ад роднай хаты, каб тут ты быў чужынцам! Хай гэтае слова ня крыўдзіць цябе. Але ж ці стаў бы грузін-вайсковец бязьлітасна секчы сваіх братоў грузінаў? Наўрад ці так! Усё гэта добра ведалі тыя, хто зацьвярджаў "экстэрнтарыяльны" прынцып пабудовы войска! Спасылаючыся пры гэтым, што такі прынцып будзе садзейнічаць выхаваньню ў кожным з нас інтэрнацыяналіста. Гэта былі словы. На справе атрымалася, што вырошчваюць з нас манкуртаў!

Пры ўсім гэтым ніводзін разумны чалавек на Беларусі не назаве цябе акупантам. Бо ўсе разумеюць: ня ты ў гэтым павінны. Дык калі ёсьць у цябе сумленьне, — ня стань паслухмянай дубінкай у руках тых, хто давёў краіну да крызісу, хто проста фізічна няздольны нешта перасэнсаваць. Зараз ты разам з намі дзеліш забруджаныя радыёнуклідамі паветра ды харч... За што беларусам такая доля, за ветлівасьць і дэоразьчулівасьць?! Ты гэта ўсё і сам ведаеш. Дык ці ўздымецца ў цябе рука на тых людзей, якія стварылі БНФ?

Ты спаслешся на загад. Але ж, згодна інструкцыяў таго ж Міністэрства абароны Саюза, асоба, што выканала загад, які прывёў да цяжкіх вынікаў /напрыклад: чалавечых ахвяраў/ можа быць прыцягнутая да адказу. У той жа час Вайсковы Статут патрабуе выкананьня загаду ў любым выпадку.

Загад загадам, але ці не закатуе цябе потым уласнае сумленьне?!

Па даручэньні Вольнага Згуртаваньня Вайскоўцаў /Менск/ Алесь Лісяня.



Рад-у: Рэкамэндую — ідэальны сродак дэмакратызацыі грамадзтва.
Сак-у: Та-ак, цудоўная рэч... Мы з таварышамі даўно меркавалі каб набыць партыю для Беларусі.

* * *

" 235, ... ну, скажам 270" — вылецела раптам з вуснаў ... Старшыні Вярхоўнага Савету БССР І.Я.Навуменкі пры падліку галасоў пад час апошняе сэсіі.

Адзіная недарэчнасьць у гэтым узоры "беларускага парлямэнтарызму" — гэта не адключаны ў час мікрафон.